24 лістапада 1994 г.
Чацвер
№ 126 (13843)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА






Малюнак Віктара ДУБОВІКА.



Фота С. МІКАЛАЕВА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Пабудуем помнік Скарыне

*У мэтах ушанавання памяці Францыска Скарыны — беларускага першадрукара, вучонага, асветніка–гуманіста і пісьменніка эпохі Адраджэння — Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб узвядзенні ў Мінску ў 1994—1996 гадах яму помніка па праекту, зацверджанаму журы рэспубліканскага конкурсу.*

Функцыі заказчыка па будаўніцтву помніка ўскладзены на Мінскі гарвыканкам.

Работы, звязаныя з будаўніцтвам помніка, будуць фінансавацца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, Мінскага гарвыканкама і Беларускага фонду культуры.

Беларускі фонд культуры адкрые спецыяльны рахунак па збору сродкаў на будаўніцтва помніка Францыску Скарыне.

Прэс-служба Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь

### З нагоды гадавіны Слуцкага паўстання

*26 лістапада з нагоды чарговай гадавіны Слуцкага паўстання за незалежнасць Беларусі, у вёсцы Грозава Слуцкага раёна па ініцыятыве БНФ будзе ўстаноўлены памятны крыж.*

Гэта месца знакамітае тым, што тут створаны першы полк стральцоў Беларускай народнай рэспублікі. Як паведамілі ва ўправе БНФ, для ўдзелу ў культурнай праграме з Мінска прыедуць дзеячы культуры, гісторыкі.

### Фонд вязняў

*Напярэдадні святкавання 50–годдзя Вялікай Перамогі ў музеі мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць–герой" ствараецца дакументальны фонд "Вязні 1941—45 гадоў".*

Супрацоўнікі мемарыяла звярнуліся да ўсіх былых вязняў з просьбай прысылаць свае ўспаміны, дакументы, фатаграфіі для ўвекавечання памяці ахвяр фашызму.

### Цэны будуць павышацца, але плаўна

*"Цэны на энерганосьбіты будуць плаўна павышацца",— лічыць віцэ–прэм'ер Рэспублікі Беларусь Валерый Кокараў, які праінфармаваў журналістаў аб становішчы спраў у галіне энергазберажэння.*

Паводле прызнання Валерыя Кокарава, агульны доўг Расійскай Федэрацыі вырас да 460 мільёнаў даляраў. Ён уключае запазычанасць у 420 мільёнаў па газу і 40 — па нафце. Нягледзячы на тое, што ў апошнія месяцы рэспубліка выйшла на ўзровень адносна нармальнага забеспячэння значнай часткі бягучых плацяжоў, умовы Расіі сталі больш жорсткія, і яна патрабуе перадачы часткі акцый беларускіх прадпрыемстваў. У першую чаргу гэта датычыць "Белтрансгазу", прадпрыемстваў нафтахімічнага комплексу, аўтамабілебудавання, электроннай прамысловасці і іншых галін народнай гаспадаркі. Віцэ-прэм'ер адзначыў, што гэта пытанне плануецца разгледзець праз 12 дзён. Калі будуць знойдзены сумесныя падыходы да інтэграцыі прамысловасці, то пытанне з даўгамі за газ будзе адрэгулявана. Доўг па нафце плануецца кампенсаваць за кошт бартэрных паставак.

Удзельнікі сустрэчы закранулі і выкарыстанне альтэрнатыўных крыніц энергіі. Тут пытанне заключаецца ў тым, наколькі гэта выгадна рэспубліцы. Цяпер вядзецца прапрацоўка выкарыстання энергіі сонца, біягазу. Дарэчы, біягаз як паліва праходзіць апрабацыю ў шэрагу гаспадарак Мінскай вобласці, а для Гомельскай вобласці распрацоўваецца спецыяльная праграма па яго выкарыстанню. Аднак, каб развіваць альтэрнатыўную энергетыку, неабходны немалыя сродкі, лічаць спецыялісты, а вось да пытання эксплуатацыі малых гідраэлектрастанцый не пашкодзіла б вярнуцца.

БЕЛІНФАРМ.

### Сялянская партыя раіцца

*Палітычныя партыі пачынаюць падрыхтоўчую работу да выбараў у новы парламент. Уключылася ў гэтую кампанію і Беларуская сялянская партыя. Днямі з гэтай нагоды адбылося чарговае пасяджэнне яе Цэнтральнай рады.*

У ходзе працяглай дыскусіі выявіліся дзве асноўныя пазіцыі. Адны выказаліся за тое, каб БСП уступіла ў перадвыбарны блок з усімі дэмакратычнымі партыямі і рухамі. Другія, наадварот, палічылі, што БСП павінна выступаць на выбарах самастойна і незалежна. Рада пастанавіла канчаткова вырашыць спрэчнае пытанне пасля таго, як Вярхоўны Савет прыме новы Закон аб выбарах.

Яфім ІВАНОВІЧ.

### Студэнты шукаюць сваё месца

*Учора ў будынку філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта пачалася Усебеларуская навукова–практычная студэнцкая канферэнцыя "Роля і месца студэнтаў у нацыянальна–культурным будаўніцтве на Беларусі". На канферэнцыю прыбылі прадстаўнікі практычна ўсіх ВНУ рэспублікі.*

Зараз студэнты працуюць па секцыях, а ўчора разам з прадстаўнікамі Міністэрства адукацыі, вядомымі вучонымі ўдзельнічалі ў дыскусіі.

Вера ШЧЭЦІНА.

### Міліцыянер знішчыў сям'ю

*Нядаўна на адной з вуліц Маладзечна здарылася страшная трагедыя: вадзіцель легкавога аўтамабіля на скрыжаванні наехаў на вялікай хуткасці на маладую сям'ю: бацьку, маці і іх маленькую дачку, якія загінулі на месцы. Вадзіцель уцёк з месца здарэння.*

Міліцыяй быў аб'яўлены вышук злачынцы, яго прыкметы перадаваліся па Беларускім радыё і тэлебачанні. І вось зусім нядаўна злачынца быў арыштаваны. Ім аказаўся...міліцыянер ДАІ Маладзечанскага ГРАУС.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### У пошуках "мужчыны года"

*Віцебшчына славіцца прыгожымі дзяўчатамі, што пацвярджалі і іх перамогі на розных конкурсах прыгажосці. Але настаў час прадэманстраваць свае адметныя якасці і моцнаму полу.*

Рэкламнае агенцтва Аляксандра Варламава мае намер правесці на прыдзвінскай зямлі конкурс "Мужчына года". Прэтэндэнты на гэта прэстыжнае званне павінны быць ростам не менш за 182 сантыметры, разбірацца ў эканоміцы і ведаць замежныя мовы.

### Кіяскёры–махляры

*Кіраўніцтва гарадской аўтагаспадаркі ў Брэсце занепакоена ўсё больш частымі выпадкамі продажу фальшывых праязных дакументаў.*

Спрытныя "ўмельцы" на старым білеце акуратна зводзяць штамп і на яго месцы ставяць новы. Такія афёры пачалі рабіць нават некаторыя кіяскёры. Таму прыйшлося ў іх забраць пячаці і выдаваць для рэалізацыі ўжо праштампаваныя праязныя.

БЕЛІНФАРМ.

### Курсы валют на 23 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 7640 | 7870 | 4908 | 5092 |
| "Алімп" | 7660 | 7850 | 5073 | 5304 |
| "Дукат" | 7750 | 8000 | 5000 | 5200 |

"ПАС"—палітыка-аналітычная служба

# Раннія прыцемкі

☐ Якаў Ясэпкін,"ЧЗ"

*Завяршаецца апошні месяц восені. Першай восені прэзідэнцтва на Беларусі. Мінулі сто дзён пасля інаўгурацыі, прайшоў яшчэ месяц, распачаўся новы. Сёння можна сказаць, бадай, адно: лёгкага жыцця ў агляднай будучыні ні ў прэзідэнта, ні ў народа, які падтрымаў Аляксандра Рыгоравіча на выбарах, не прадбачыцца. Пра гэта сведчыць шэраг аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў.*

Дзеянні новай улады, накіраваныя на стабілізацыю эканомікі, пакуль нельга лічыць надта паспяховымі. Па сутнасці, калі не браць у разлік дастаткова касметычную карэкціроўку агульнага курсу і слоўную абляроўку з кшталту заяў аб намерах, працягваецца практыка, знаёмая па часу нядаўняга мінулага. Увогуле, тут няма нічога нечаканага. Экспрэсія перадвыбарчай барацьбы не давала падстаў для спадзяванняў на перамогу без эфектыўнага прымянення ў ходзе парламенцкіх дэбатаў стандартнага набору абяцанняў. У такім майстэрстве будучы прэзідэнт яўна пераўзышоў сваіх апанентаў. Да таго ж чалавек з народа быў у адзіноце між іншымі прэтэндэнтамі на ролю нацыянальнага ратавальніка. Ніводзін з іх не мог так шчыра гаварыць і абяцаць тое, што гаварыў і абяцаў дэпутат, сімвалічна ўвасабляўшы ў сваім вобразе народнага абаронцу-змагара з карупцыяй вышэйшага і сярэдняга чыноўніцтва. Людзі паверылі "свайму", таму што больш не было каму верыць. Сённяшнія сцвярджэнні апазіцыі аб памылковым выбары, думаецца, амаль цалкам належаць ангажыраваным мэтавым прыярытэтам. Працэс змаганняў за ўладу працягваецца разам з працэсам стварэння і фіксацыі ў грамадскай свядомасці палітычных іміджаў. Таму было б дзіўным менавіта маўчанне палітыкаўантаганістаў. Уласна кажучы, разлічваць на нейкае іншае развіццё падзей у рэспубліцы пасля падзення кебічаўскага ўрада і не прыходзілася. Мабыць, галоўны здабытак народа пры новай уладзе заключаецца ва ўхіленні старой.Прыход у ліпені любога з прапаноўваўшых сябе на прэзідэнцкі трон ніякім кардынальным чынам не змяніў бы ў першую чаргу эканамічную сітуацыю. Верагодна, толькі адзін Вячаслаў Францавіч, калі б атрымаў піраву перамогу, пацярпеў бы ў большай ступені, чым астатнія. Людзі ўручылі "плацінавую картку" Лукашэнку. Пытанне ў яе каштоўнасці і сапраўднай вартасці. Эканоміка па-ранейшаму застаецца "рэччу ў сабе", ніхто дакладна не ведае, якія магічныя сродкі патрабуюцца для яе рэанімацыі. Хутчэй за ўсё, народныя мроі аб заможным жыцці, абяцаннямі якога вабна ўпрыгожвала перадвыбарчыя праграмы ўся прэтэндэнцкая раць, не грунтаваліся на рэальнай глебе. Паўторым, дзейнічала матывацыя з адмоўным знакам. Фігура Лукашэнкі падавалася адзінай альтэрнатывай. Выбару не было. Панаванне наменклатурнаэлітарнай групоўкі (у розных варыянтах) ніяк не адпавядала настроям людзей, аднолькава пацярпеўшых, адчуўшых на сабе ўзрушэнні постсавецкага перыяду пры Кебічу, Шушкевічу і К°. Папросту абралі не іх. Драма новай улады, якая можа ператварыцца ў трагедыю, у немагчымасці блізкага адчувальнага паляпшэння стану грамадства, падняцця планкі ўзроўню жыцця. Аб выкананні перадвыбарчых абяцанняў размова не ідзе. Здаецца, не выклікала і не выклікае вялікага раздражнення і прызначэнне на пасады ў кабінеце М.Чыгіра старых чыноўнікаў. Яны займаюць высокія крэслы таму, што няма іншых кандыдатур. Іх маглі прывесці з сабой, напрыклад, Шушкевіч і Пазьняк. Але з тым жа вынікам.

Сёння палітыка, як мастацтва магчымага, становіцца сродкам уздзеяння на рэаліі, інструментам рэгулявання сумбурнай явы, прынамсі, пры яе адэкватнасці абставінам. Апошнія падзеі прыносяць сведчанні калі не адваротнага, дык не зусім адпаведнага стандартным канонам развіцця калізій наверсе. Вядома, што уладныя піраміды бываюць больш трывалымі і даўгавечнымі за егіпецкія. Вырашыўшы пакінуць беларускую пірамідальную савецкую структуру без падмурка, прэзідэнт закрануў інтарэсы многіх і многіх. Пралог супрацьстаяння галін улады быў прызначаны парламенцкай ухвалай прапаноў Лукашэнкі. Потым адбыўся працяг. Сёння прэзідэнцкая вертыкаль ахутана раннімі прыцемкамі. Далейшы лёс яе пакуль уяўнай восі, хутчэй за ўсё, вырашыцца ў снежні. І ў яго чорным мармуры прыцемкі раннія. Фразема "цемра егіпецкая" гучыць сёння таксама сімвалічна. Хаця пра яе гаварыць зноў жа рана. Між тым, засланіўшы праграмную праблематыку антыкрызіснага фаліянта і заканатворчыя навацыі, неабходныя для яе паэтапнай рэалізацыі, на першыя старонкі газет (аб павышанай увазе да пытання ўладнай трыяды казаць не прыходзіцца), выйшла "вертыкальна-савецкая" тэма. Невялікі аповед, маючы трохбаковае аўтарства і абвешчаны ў Канстытуцыйным судзе, фактычна стаў тыднёвым бестселерам. Храналогія і фактычная канва пункцірам.

Разгляд "справы Піскарова" распачаўся 18 лістапада, у пятніцу. Дакладвала В.Падгруша. Даклад яе быў прафесійным і матываваў дзеянні КС (у прыватнасці, прыпыненне ім асобных норм вядомага закона з ледзь высахлай парламенцкай тушшу). Тлумачэнні В.Піскарова і В.Голубева можна лічыць даволі ўдалай "абаронай" пазіцыі 82-х. Даследаванне пісьмовых доказаў і заключэнні экспертаў аб неадпаведнасці Закона ад 6 кастрычніка заканадаўству і міжнародна-прававым актам не паставілі кропку на разглядзе. Быць або не быць Саветам? Стаўшае сакраментальным пытанне заставалася нявырашаным нядоўга. Дастаткова ўмоўная дылема — народнае самакіраванне ці дыктат чыноўніка — мела форму пытальніка яшчэ адны выхадныя. Аднак, безумоўна, у "падмурку" ўладнай піраміды страсці кіпелі долей. 21 лістапада — дзень адметны. Першае "не" прэзідэнту прагучала, так бы мовіць, з дзяржаўных вуснаў. Хаця ў ходзе пасяджэння міністр юстыцыі В.Сукала, віцэ-прэм'ер В.Ганчар, старшыня Гаспадарчага суда У.Бойка прыводзілі аргументацыю супраць экспертных ацэнак, літара закона, яго "чорная фарба" была, што называецца, непахіснай. Слабае ўздзеянне на высокі суд, па ўсёй верагоднасці, мелі і доказы правамернасці прэзідэнцкіх прапаноў, якія прыводзіў Л.Сініцын. А 16-й гадзіне ў панядзелак В.Ціхіня аб'явіў заключэнне. Канстытуцыйны суд прызнаў: нормы Закона ад 6 кастрычніка, якія прадугледжваюць скасаванне Саветаў пярвічнага ўзроўню, не адпавядаюць Канстытуцыі. Яны страчваюць сілу. У той жа час парадак фарміравання выканаўчых камітэтаў абласнога і базавага ўзроўняў захоўваецца. Такі вердыкт пакідае неадназначнае ўражанне, як пакідае і магчымасць падваення ўлады. Саветы на месцах аднаўляюцца, прэзідэнцкая вертыкаль трансфармуецца...

*(Працяг будзе).*



## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "TV-5"



*Дзяжурныя па выпуску перакладчык Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

### АМНІСТЫЯ ПАЛІТЗНЯВОЛЕНЫМ

*Куба вырашыла вызваліць палітычных зняволеных.*

У выніку трохдзённых перагавораў з прадстаўнікамі камісіі ААН па правах чалавека Кастра падпісаў спіс палітзняволеных, якія будуць вызвалены.

### ПРЭМ'ЕРУ ПАГРАЖАЕ АДСТАЎКА

*Прэм'ер–міністр Італіі адмовіўся падаць у адстаўку.*

Як вядома, Сільвіо Берлусконі абвінавачаны ў карупцыі. Паводле слоў самога прэм'ера, пра ўсе абвінавачванні ў свой адрас ён упершыню даведаўся з прэсы. Берлусконі заявіў, што пойдзе ў адстаўку толькі ў тым выпадку, калі так вырашыць парламент.

### ПЕРАМАГЛІ КАМУНІСТЫ

*У Непале прайшлі выбары ў парламент краіны.*

Як і чакалася, перамогу на іх атрымала камуністычная партыя.

### "НАСЛЕДНІК" МІТЭРАНА

*Партыя сацыялістаў Францыі вылучыла кандыдатам на пост прэзідэнта Францыі Жака Дэлора.*

Гэта рашэнне было прынята на пасяджэнні партыі. Лідэр сацыялістаў заявіў, што Дэлор — адзіны кандыдат, які можа быць пераемнікам Мітэрана.

### УРАДАВЫЯ АЎТО – НА АЎКЦЫЁН

*У кітайскай правінцыі Хайнань на аўкцыён былі выстаўлены каля 20 іншамарак, якія да нядаўняга часу знаходзіліся ў персанальным распараджэнні мясцовых кіраўнікоў.*

Гэта акцыя праведзена дзеля выканання новага загаду ўрада, у якім народным выбраннікам раяць весці сціплы спосаб жыцця.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

